# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

23.02.12-29.02.12 г.



## ПЕРШЫЯ ЛАСТАЎКІ



БЯГУЦЬ З ФПБ

СТАР. 3, 6

## НОВЫ ПАСОЛ ІЗРАІЛЯ



АБАРАНЯЕ ЛУКАШЭНКУ

СТАР. 4-5


# АДМЫСЛОВЫ СПЕКТАКЛЬ ПЕРАД АМБАСАДАРАМІ

Аляксандр Лукашэнка, нібыта згадаўшы класічныя радкі "отсель грозить мы будем шведам", абрынуўся на Захад. Праўда, ролю апошніх выконвалі нарвежцы.



Позірк на ЕС: і хочацца, і колецца

## ЯПОНЦЫ Ў ЧАКАННІ

У панядзелак кіраўнік Беларусі прымаў вярыцельныя граматы ў 9 новых амбасадараў. Лукашенка скарыстаўся гэтай нагодай, каб ва ўласцівай яму агрэсіўнай манеры "наехаць" на Еўрасаюз:

*– Эти санкции, которыми вы, европейцы, размахиваете перед нашим носом, вы поймите – мы пока терпим. Но если только вы переступите красную линию, мы ответим очень жестко... Если в Европе кто-то думает о том, что нас по-прежнему еще можно наклонить какими-то санкциями, упреками, требованиями – это дорога в никуда. Даже, если мы останемся в одиночку без России, Китая, без других наших друзей, поверьте, мы будем на смерть стоять здесь, как когда-то в 1941-1945-м, защищая свою независимость и суверенитет.*

> "І тады ніхто не будзе даваць табе пад азадак, і гэта не будзе выклікаць такога раздражнення і злосці, якую цяпер выклікае ў гаспадара Рэспублікі Беларусь".

Самае смешнае, што з 9 амбасадараў толькі 1 рэпрэзентаваў Еўрасаюз. І гэта быў кіраўнік дыпламатычнай місіі... Люксембурга – карлікавай дзяржавы, якая дакладна не знаходзіцца сярод ворагаў "апошняй дыктатуры Еўропы". Таму, відаць, Лукашэнка апеляваў да амбасадара Нарвегіі, якая далучылася да санкцый супраць афіцыйнага Менску, хоць і не ўваходзіць у ЕС.

Наогул, тое, што адбывалася падчас гэтай імпрэзы нагадвала нейкую фантасмагорыю. Лукашэнка заявіў, што пабудуе беларускую выспачку ў Эфіёпіі – адной з самых праблемных краінаў свету. А ў размове з амбасадарам з Краіны Ўзыходзячага Сонца падзівіўся, чаму японскія аўтаканцэрны дагэтуль не пабудавалі свае заводы ў Беларусі і прапанаваў неадкладна заняцца гэтым. Ага, "Таёта" з "Маздай" толькі і чакалі, што сігналу ад Лукашэнкі...

Асобным хітом сталася наступная заява: *"Вы должны у нас построить красивую, хорошую атомную станцию, а японцы умеют это делать, на мой взгляд, не хуже, а значительно лучше тех, кто умет это делать"*. "Должны"! "Красивую атомную станцию"!!! Каментары тут, відаць, будуць залішнія.

А вось рэакцыя на выпады ў бок Еўрасаюза не прымусіла сябе доўга чакаць. Сам ЕС праігнараваў гэты спектакль аднаго акцёра, а вось беларускія палітыкі адгукнуліся "рэцэнзіямі". Найбольш вобразна гэта зрабіў кіраўнік "Гавары праўду" Уладзімір Някляеў у размове з Радыё Свабода:

– У нас у вёсцы быў такі Юзік. Ягоная ўбогая хаціна стаяла паміж двух добрых гаспадарскіх дамоў.


Заканчэнне на стар. 3


ПАДЗЕЯ

## МІНКУЛЬТУРЫ: У НАС «ЧОРНЫХ СПІСАЎ» НЯМА

**Міністэрства культуры абвяргае інфармацыю аб існаванні «чорных спісаў» дзеячаў мастацтва, сцвярджае БелаПАН.**

«Магу пацвердзіць, што ў Міністэрства культуры ніякіх «чорных спісаў» дзеячаў мастацтва няма», — заявіў БелаПАН намеснік міністра культуры **Тадэвуш Стружэцкі**.

«Мы лічым, што творчыя калектывы, дзейнасць і творчасць якіх не супярэчаць заканадаўству, нацыянальным традыцыям і агульнапрынятым нормам грамадскіх паводзін і гэтак далей, павінны быць запатрабаваныя. Мы не бачым ніякай праблемы у прадастаўленні пляцовак і эфіру беларускамоўным гуртам і музыкам», — адзначыў ён.

Паводле слоў Стружэцкага, «калі недзе на месцах існуюць такія забароны, то патрэбна ў кожным канкрэтным выпадку высвятляць, хто гэта зрабіў і з якіх прычынаў».

Гэтак званы «чорны спіс» дзеячаў мастацтва з'явіўся ў інтэрнэце ў пачатку сакавіка 2011 года. У спіс ўключана прыкладна 30 дзеячаў мастацтва і культуры і 15 калектываў, якія выказваліся ў падтрымку дэмакратыі ў Беларусі і патрабавалі вызвалення палітвязняў. Чыноўнікі называюць «чорны спіс» фальшыўкай. Аднак менавіта пасля публікацыі «чорнага спісу» ў Беларусі быў адменены шэраг канцэртаў — гуртаў «Крамбамбуля» і «Нейра Дзюбель», Дзмітрыя Вайцюшкевіча і інш.


**Каб аформіць падпіску "Тут і цяпер"**, трэба адправіць смс са сваім адрасам на нумар **8 10 370 679 294 59**

# КОЛЬКІ МІЛЬЯРДАЎ МОЖА ВЯРНУЦЦА Ў БЕЛАРУСЬ?

Апошнім часам гучыць шмат заяў як з боку дзяржавы, так і асобных недзЯржаўных структур па магчымаму вяртанню ў нашу краіну такіх патрэбных цяпер капіталаў, вывезеных у розныя часы за мяжу. Наколькі рэальныя і актуальныя такія заявы і прапановы?



*У нас шмат хто ў слоіку захоўвае грошы. Што ўжо гаварыць пра долары з замежжа*

**СЯРГЕЙ БАЛЫКІН, ЭКАНАМІСТ:**

### “ДЗЯРЖАВЕ НЕ ВЕРАЦЬ З САВЕЦКІХ ЧАСОЎ”.

— Думаю, такія заявы на сумленні пана Карагіна. Я не лічыў, колькі капіталаў знаходзіцца ў цені, куды яны пойдуць, якія яны, чые і ці патрэбны тут увогуле. Так што пытанне вельмі цікавае. Акрамя таго, калі амністыю капіталаў у Беларусі будуць праводзіць так, як у нас усё праводзяць, то, баюся, капіталы не тое што не вернуцца, але яшчэ і збягуць. Ці можна давяраць уладзе? Тэарэтычна можна давяраць усім, каму хочаш. Колькі людзей даверылі свае кроўныя грошы “Беларусбанку”, а ў выніку дэвальвацыі толькі згубілі! Ці паверыць бізнес у такую амністыю? Я сумняваюся, што нехта ў нешта паверыць, паколькі сёння даверу да ўлады, у прынцыпе, ў бізнесу няма. Давер да дзяржавы падарвалі яшчэ за савецкімі часамі, бо што б ні рабілі, усё роўна рабавалі, “раскулачвалі”. Такі ж недавер быў і ў 80-я гады, калі з’яўляліся кааператывы.

**БАРЫС ЖАЛІБА, ПРАФЕСАР, ДОКТАР ЭКАНАМІЧНЫХ НАВУК:**

### “ЯКІЯ МІЛЬЯРДЫ? НАВАТ МІЛЬЁНЫ НЕ ВЕРНУЦЦА”.

— Я не падзяляю аптымізм пана Карагіна. Ёсць такое паняцце “рызыка краіны” — гэта сукупнасць палітычных, эканамічных і іншых рызык. Тыя прадпрымальнікі, якія вывезлі капітал з Беларусі, пры ўсім сваім жаданні не могуць сапернічаць з расійскімі маштабамі. Іх капітал невялікі. І трэба стаць на месца тых прадпрымальнікаў, каб зразумець, што наўрад ці яны давяраюць уладзе. Яны ведаюць канкрэтную практыку адносін улады да бізнесу; ведаюць, што ў нас няма сталых рынацных правіл гульні. У нас можа быць умяшанне дзяржавы ў бізнес у любы момант. Гэта можна было ўбачыць падчас адной нарады з прэзідэнтам. Памятаеце, французска-расійскую кампанію “Юнімілк” разбіралі? Крытыка там прагучала, магчыма, і правільная, але памятаю, што прэзідэнт заўважыў — трэба ж разабрацца, што яны там з прыбыткам робяць. Гэта адразу ж адштурхае ўсякіх прадпрымальнікаў. Ёсць эканамічныя правілы гульні — калі ідзе замежны інвестар, то прыбыткам распараджаецца выключна ён. Хоча пакінуць яго ў краіне — добра, а хоча вывезці — таксама яго справа.

І я песімістычна стаўлюся да таго, што сур’ёзныя капіталы вернуцца ў Беларусь, не гаворачы ўжо пра мільярды. Нават дзясяткі мільёнаў не вернуцца.

**ВІКТАР МАРЦІНОВІЧ, ЖУРНАЛІСТ:**

### “БЕЗ СУДОВАЙ РЭФОРМЫ АМНІСТЫЯ НІЧОГА НЕ ВЫРАШЫЦЬ”.

— Мне здаецца, амністыяй тут нічога не вырашыш, таму што амністыя капіталаў не гарантуе экспрапрыяцыі ад тых аб’ёмаў у будучыні.

Уладзімір Карагін меў бы рацыю, калі б дадаў да сваіх слоў пра амністыю простае сцвярджэнне — “калі б акрамя амністыі ў нас была б яшчэ і судовая рэформа”. Таму што ва ўсіх цывілізаваных краінах свету незалежныя суды існуюць не дзеля таго, каб грамадству было прыемна, а дзеля таго, каб бізнесмены былі ўпэўнены ў тым, што калі раптам у іх забяруць усё, што яны маюць, яны пойдуць у суд. І гэты незалежны ад дзяржавы суд пастановіць вярнуць адабранае. Да тае пары, пакуль у нас не будзе веры бізнесменаў у закон, у судовую сістэму як гарант капіталу нічога не зменіцца.

**НАСТА, СТУДЭНТКА.**

### “ГЭТА РАЗЛІЧАНА НА ВАР’ЯТАЎ”.

— Можна падумаць, што людзі, якія валодаюць мільярдамі, ды нават і адным мільёнам, дурнейшыя за таварыша Лукашэнку і таварыша Мясніковіча. Нават калі чалавек здолеў зарабіць сто тысяч долараў, гэта азначае, што галава ў яго на плячах ёсць і ён выдатна ўсведамляе, у якой краіне жыве. Я не магу ўявіць разумнага багатага чалавека, які пагодзіцца гуляць у агульныя гульні з нашымі святкавальнікамі “Дажынак”, будаўнікамі аграгарадкоў і лядовых палацаў. На такое здольны толькі вар’ят. Таму ім трэба шукаць звар’яцелага мільярдэра.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**БЕЗЛІЧ АПТЫМІЗМУ**

### АМНІСТЫЯ КАПІТАЛАЎ МОЖА ДАЦЬ БЕЛАРУСІ БОЛЬШ ЗА $ 1 МІЛЬЯРД

Нарматыўны акт аб амністыі ценявых капіталаў і тых, што эмігрыравалі, у сукупнасці з іншымі мерамі па лібералізацыі дзелавога клімату можа вярнуць у актыўны эканамічны абарот Беларусі больш як $ 1 млрд. Такое меркаванне выказаў у гутарцы з карэспандэнтам БелТА старшыня Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і работадаўцаў (МССПіР) Уладзімір Карагін.

На маючай адбыцца асамблеі дзелавых колаў Беларусі, якая пройдзе ў канцы лютага ў Мінску, бізнес-саюзы рэспублікі маюць намер таксама ініцыіраваць пытанне аб шырокай амністыі асоб, асуджаных за гаспадарчыя злачынствы. Паводле ацэнкі Уладзіміра Карагіна, на сёння ў Беларусі каля 12 тысяч чалавек адбываюць пакаранне па прысудах гэтай катэгорыі. «Калі чалавек прызнаў свае памылкі і гатоў вярнуць інкрымінаваныя яму сумы, то варта даць яму магчымасць вярнуцца да актыўнай дзейнасці і працаваць на карысць краіны», — лічыць лідар бізнес-саюза.

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 1*

Ён не мог пабудаваць сябе такія дамы, як ягоныя суседзі, таму ўвесь час гразіўся — «Я вас спалю, от я вас спалю». І вось аднойчы ўначы надумаўся, узяў запалкі, пайшоў нібыта паліць — але сусед убачыў, даў пад азадак і зноў закінуў назад у тую самую хаціну. Дык вось трэба проста будаваць свае дамы, каб яны былі такімі сама заможнымі, як у суседзяў. І тады ніхто не будзе даваць табе пад азадак, і гэта не будзе выклікаць такога раздражнення і злосці, якую цяпер выклікае ў гаспадара Рэспублікі Беларусь.

## ГЭТА ЎСТУП

Дадамо, што ваяўнічая рыторыка Лукашэнкі нагадвае своеасаблівы зандаж глебы. З аднаго боку, яму карціць хоць трохі наладзіць дачыненні з Захадам, каб ізноў атрымаць магчымасць гуляць на супярэчнасцях паміж ім і Расіяй. З другога, кіраўнік Беларусі правярае, ці не праявіць Еўропа гэтым разам празмерную мяккасць, каб пазбегнуць эскалацыі канфлікту.

Відавочна, што заявы Лукашэнкі – гэта ўступ да паседжання Рады міністраў ЕС 27 лютага, дзе будзе разглядацца пытанне аб пашырэнні санкцый адносна кіраўніцтва Беларусі. Які ход у адказ зробіць Еўрасаюз, мы даведаемся на наступным тыдні. Аднак, мяркуючы па выніках візіта ў Мінск дырэктара дэпартамента ЕС Гуннара Вігана, які анансаваў верагоднае вызваленне неўзабаве кагосьці са знакавых палітвязняў, асабліва жорсткіх крокаў з боку Брусэля чакаць пакуль не даводзіцца.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# АДМЫСЛОВЫ СПЕКТАКЛЬ ПЕРАД АМБАСАДАРАМІ



*Японская “Фукусіма” там нарабіла спраў…*

**У ТЭМУ**

## ШЭСЦЬ ПОЛЬСКІХ ДЭПУТАТАЎ НЕ ПУСЦІЛІ Ў БЕЛАРУСЬ.

**МЗС Беларусі пакрыўдзіла, што польскія дэпутаты ігнаруюць палату прадстаўнікоў.**

«Пасольства гэты факт каментаваць не будзе, рыхтуецца заява МЗС Польшчы, якая будзе змешчана на яго афіцыйным сайце», — паведаміў БелаПАН прэс-сакратар дыппрадстаўніцтва Павел Марчук.

21 лютага шэсць членаў камісіі сейма па сувязях з палякамі за мяжой накіроўваліся ў Гродна для сустрэчы з прадстаўнікамі не прызнанага беларускімі ўладамі Саюза палякаў.

На памежным пераходзе «Брузгі» дэпутатам было адмоўлена ва ўездзе без тлумачэння прычын і нягледзячы на наяўнасць у іх дыпламатычных пашпартоў.

Каментуючы сітуацыю, намеснік начальніка ўпраўлення інфармацыі — начальнік аддзела прэс-службы МЗС Беларусі Марыя

Ваньшына заявіла: «Польскія парламентарыі запланавалі свой візіт у Беларусь, грэбуючы не толькі узаемадзеяннем са сваімі беларускімі калегамі, але і якога-кольвек папярэдняга інфармавання беларускага боку наогул. Ажыццяўленне візіту парламенцкай дэлегацыі мае на ўвазе наяўнасць адпаведнага запрашэння ад парламентарыяў краіны прызначэння — у гэтым выпадку нацыянальнага схода Рэспублікі Беларусь».

# АДТОК ЛЮДЗЕЙ З ФПБ ЯК ПЕРШЫЯ ЛАСТАЎКІ

Старшыня Беларускага Кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук заўважае, што рэйтынг незалежных прафсаюзаў сёння значна вышэйшы за рэйтынг любой апазіцыйнай партыі.

**Пра гэта і не толькі Аляксандр Ярашук распавёў у інтэрв’ю “Тут і цяпер”.**

## З ПРАЦОЎНЫМІ ЛЮДЗЬМІ ЦЯЖКА ЗМАГАЦЦА

**— Аляксандр Ільіч, днямі ў інтэрнэце з’явілася навіна аб тым, што каля пяцідзесяці работнікаў аршанскіх электрасетак напісалі заявы аб выхадзе з афіцыйнага прафсаюза...**

— Я проста не хачу называць усе адрасы, але да нас у апошні час актыўна звяртаюцца з самых розных галін і арганізацый.

**— А чаму не хочаце назваць дадзеныя арганізацыі? Магчыма, гэтыя людзі, сышоўшы з ФПБ, прыдуць да вас.**

— Мы не гуляем з лёсамі людзей. Мы сказалі ўсім тым, хто прыняў рашэнне сысці з ФПБ, прыкладна так: будзем мець справу з вамі толькі тады, калі вы будзеце сапраўды перакананы ў тым, што хочаце і гатовы стварыць незалежны прафсаюз.

**— Ці дарэчы сёння казаць аб тым, што адзначаецца масавы адток людзей з ФПБ?**

— Я б не сказаў, што гэты адток мае масавы характар. Магу ўзяць на сябе адказнасць і заявіць, што ў найбліжэйшы час не будзе масавага выхаду людзей з ФПБ. Справа ў тым, што рэжым валодае яшчэ дастатковым рэсурсам для таго, каб кантраляваць працоўных, у тым ліку і праз ФПБ. Але цалкам відавочна, што магчымасці ўлады слабеюць, і сёння працоўныя разглядаюць Федэрацыю прафсаюзаў Беларускую як частку таталітарнай сістэмы, пры дапамозе якой іх трымаюць у кабале. Дзякуючы ФПБ іх перавялі на кантракты, і многія ўсведамляюць, што гэтая арганізацыя не абараняе іх ад дзяржавы.

Што да адтоку людзей з ФПБ, то я сказаў бы, што гэта як першыя ластаўкі, якія надвор’я не робяць, але абвяшчаюць тое, што вясна непазбежная. Рэжым разумее, з якой пагрозай ён сутыкнуўся. Гэта ж не выклік з боку палітычнай апазіцыі, якую змаглі дыскрэдытаваць і аслабіць. Рабочых немагчыма залічыць у лік апазіцыі, гэтак жа, як і незалежныя прафсаюзы немагчыма прадставіць у якасці апазіцыйнай партыі. Таму я лічу, што ўлада адчувае: у яе няма зброі, каб змагацца з працоўнымі, і таму ўсе іх патрабаванні, напрыклад, аб павышэнні зарплаты, адразу задавальняюцца.

*Заканчэнне на стар. 6*

# ЧАМУ НОВЫ ПАСОЛ ІЗРАІЛЯ АБАРАНЯЕ ЛУКАШЭНКУ

Пасля гадавога чакання ў Мінску з'явіўся новы амбасадар Ізраіля. Калісьці Ёсеф Шагал праходзіў у савецкім Мінску вайсковую службу, але яго цяперашняе вяртанне ў сталіцу Беларусі было адзначана скандальнымі заявамі.

*"Тут і цяпер" разбіралася, якіх змен чакаць у беларуска-ізраільскіх стасунках са зменай дыпламатычнай варты.*



*Ізраіль для шмат каго стаў далей*

## ЧАЛАВЕК ЛІБЕРМАНА?

Камісія МЗС мусіла абраць новага пасла ў Мінск яшчэ да 2 студзеня 2011 года. Усё планы сапсаваў працяглы страйк дыпламатаў. Як вынік, тагачасны амбасадар Эдзі Шапіра, пераведзены на пасаду консула Ізраіля ў Санкт-Пецярбургу, пакінуў Мінск толькі ў сакавіку. Пытанні адносна кандыдатуры новага кіраўніка дыпмісіі былі зняты толькі ў мінулым месяцы. Прызначэнне 61-гадовага Шагала — ініцыятыва міністра замежных спраў і кіраўніка партыі "савецкіх эмігрантаў" "Наш дом Ізраіль" Авігдора Лібермана. Ураджэнец Кішынёва прасоўвае выхадцаў з былога СССР на кіраўнікоў амбасад постсавецкіх краін.

> "На мой розум, былы камсамольскі работнік Шагал не ўваходзіць нават у дваццатку ізраільцян, здольных найбольш эфектыўна развіваць адносіны з Беларуссю".

## ШАГАЛ І БЕЛАРУСЬ

Ёсеф Шагал адразу назваў сваё прызначэнне ў Мінск "у вядомай ступені сімвалічным". Выявілася, што напрыканцы 1960-х ён праходзіў вайсковую службу ў 120-й гвардзейскай Рагачоўскай стралковай дывізіі ва Уруччы, што брала ўдзел у падзеях "Пражскай вясны" ў 1968-м. "Гэта былі вельмі няпростыя, але запамінальныя два гады. У Беларусі ў мяне засталося шмат сяброў, я нават адзін час падумваў аб пераездзе туды", — распавёў мінулай восенню Шагал у інтэрв'ю інтэрнэт-выданню Kursor. Ён падкрэсліў, што "вельмі любіць Беларусь і яе народ".

Любоў да Беларусі Шагал праявіў даволі неадназначным чынам. У студзені пасля зацвярджэння прызначэння ў Беларусь ён заявіў ITON TV, што асабіста знаёмы з Аляксандрам Лукашэнкам, якога ахарактарызаваў як "лідара". "У яго ёсць пэўныя мінусы, але чаго ў яго не адняць, і гэта пацвердзіць беларускі народ, які галасуе нармальна, што б там ні гаварылі аб падтасоўках, беларусы добра жылі: яны атрымлівалі зарплаты, пенсіянеры — пенсіі, было чыста, эканоміка выдатна працавала", — сказаў дыпламат.

Падчас прэс-канферэнцыі 16 лютага ізраільскі дыпламат пайшоў яшчэ далей. Адказваючы на пытанне пра стаўленне Ізраіля да палітычных зняволеных у Беларусі, ён заявіў, што нічога пра гэта не ведае, і запэўніў, што адкажа "праз паўгода", калі атабарыцца на новым месцы. "А ці былі вы асабіста ў лагерах для палітвязняў? — контратакаваў Шагал карэспандэнта БелаПАН. — Я сам журналіст, я ведаю, як пішуцца такія артыкулы. І я разумею, што сваё пытанне вы задалі, хутчэй, дзеля таго, каб проста задаць, а не каб атрымаць адказ".

Заява выклікала шквал абурэння ў дэмакратычнай супольнасці Беларусі.

## ПАЛІТЫЧНАЯ "НЕЙТРАЛЬНАСЦЬ"

У адрозненне ад Еўразвяза і ЗША, якія жорстка асудзілі падзеі ў беларускай сталіцы 19 снежня 2010 года і ўвялі візавыя санкцыі супраць прадстаўнікоў афіцыйнага Мінска, Ізраіль абмежаваўся тым, што, па інфармацыі "ТіЦ", дазволіў свайму амбасадару не прысутнічаць на інаўгурацыі Лукашэнкі ў Мінску. Агулам жа пазіцыя Тэль-Авіва ў ацэнцы сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі вельмі стрыманая.

«Вельмі важна захаваць добрыя адносіны з краінай, якая ставіцца да нас выдатна", — тлумачыць Ёсеф Шагал. Па словах новага амбасадара, яго краіна, хаўруснік ЗША на міжнароднай арэне, "ніколі не была ініцыятарам санкцый супраць Беларусі", як і Беларусь "не ініцыруе антыізраільскія працэсы, але пры гэтым падтрымлівае Расію, якая часта галасуе супраць Ізраіля".

"Палітычная нейтральнасць" у адносінах дзвюх краін тлумачыцца не толькі багатымі гісторыка-культурнымі сувязямі беларускага і габрэйскага народаў. Спецыялісты ўжо даўно адзначаюць наяўнасць "палітычнай сімпатыі" паміж Лукашэнкам і Ліберманам. Ад 1995 года апошні быў у Беларусі, прынамсі, пяць разоў у розных якасцях. Менавіта ён у 2004 годзе паспрыяў аднаўленню ў Мінску дзейнасці ізраільскай амбасады, закрытай за год да таго. Неаднаразова выказваліся здагадкі, што ў Лібермана, супраць якога на радзіме вядзецца антыкарупцыйнае расследаванне, могуць быць фінансавыя інтарэсы ў Беларусі.

Беларускія ж улады апроч ізраільскіх інвестыцый, відавочна, зацікаўлены ў амерыкана-габрэйскім лобі, якое б дапамагло актывізаваць дыялог паміж Мінскам і Вашынгтонам.

**ЭКСПЕРТ:**

## "ШАГАЛА РАНА ЗАЛІЧЫЛІ Ў ХАЎРУСНІКІ ЛУКАШЭНКІ"

*"На мой розум, былы камсамольскі работнік Шагал не ўваходзіць нават у дваццатку ізраільцян, здольных найбольш эфектыўна развіваць адносіны з Беларуссю,* — распавёў у інтэрв'ю **"ТіЦ"** экс-выдавец беларуска-габрэйскага бюлетэня "Мы яшчэ тут!" палітолаг **Вольф Рубінчык**.

*— З іншага боку, у рамках "парадыгмы Лібермана" і дзяржаўнай сістэмы Ізраіля, пабудаванай на недастатковай павазе да ведаў, сумленнасці і прафесіяналізму, такое прызначэнне заканамернае".*

Рубінчык дапускае, што толькі час пакажа, ці здолее Шагал справіцца з сабой і перакваліфікавацца з журналіста ў дыпламата. "Пакуль што я не надаваў бы вялікага значэння яго заявам. Падаецца, каментатары зарана залічылі яго ў хаўруснікі Лукашэнкі", — перакананы эксперт.

Знешняя палітыка — заўсёды працяг унутранай, нагадвае Рубінчык, таму сёння немагчыма прадказаць, што чакае Ізраіль і Беларусь у найбліжэйшыя гады. "Абодва грамадствы і абедзве дзяржавы шмат у чым паводзяць сябе ірацыянальна", — кажа эксперт. Пры гэтым ён падкрэслівае, што "Беларусь для Ізраіля застаецца "на перыферыі грамадскай свядомасці". Нядзіўна, што ў іўрыце бытуе «каланіяльны» тапонім «Rusia levana» («Белая Русь»), які з цяжкасцю выцясняецца правільным назовам краіны".

**БЕЛАРУСЬ – ІЗРАІЛЬ:**
## ТОЛЬКІ ФАКТЫ

**ЭКАНОМІКА**

Пэўны прарыў у адносінах паміж краінамі адбыўся ў час амбасадарства ў Мінску Эдзі Шапіры (2008-2010). За гэты час у нашай краіне пабывалі тры ізраільскія міністры (замежных спраў, турызму і сельскай гаспадаркі). Тройчы наведалі Святую зямлю і іх беларускія калегі. З ініцыятывы Шапіры паміж краінамі пачалося экспертнае супрацоўніцтва ў сферах турызму і сельскай гаспадаркі. Праўда, на рост тавараабароту (у 2010 годзе ён дасягнуў $78 млн) гэтая актыўнасць не вельмі паўплывала. Анансаваўшы амбіцыйны інвестпраект па забудове Парка высокіх тэхналогій, ізраільская кампанія Fishman Group урэшце ўрэзала суму фінансавання з $500 млн да $100 млн.

**ВІЗЫ**

Цягам апошніх некалькіх год ізраільскі бок агучваў гатоўнасць увесці бязвізавы рэжым з Беларуссю. Падставай для гэтага мусіў стаць паспяховы расійскі і ўкраінскі досвед, пасля чаго турыстычны рынак паміж краінамі актывізаваўся ў 2-3 разы.

**ДА ВЕДАМА**
## НЕПРАФЕСІЙНЫ ДЫПЛАМАТ

**Ёсеф Шагал** нарадзіўся ў Баку, дзе скончыў гістфак мясцовага ўніверсітэта. Да рэпатрыяцыі ў Ізраіль у 1990 годзе працаваў на ідэалагічных пасадах у галіне журналістыкі і прапаганды. У Ізраілі цягам 10 гадоў супрацоўнічаў з шэрагам рускамоўных СМІ.

Яго палітычная кар'ера шчыльна знітавана з партыяй Лібермана "Наш дом — Ізраіль". У 2006—2008 гадах Шагал засядаў у кнесэце.

Апроч старшынства ў асацыяцыі "Ізраіль-Азербайджан" ды аўтарства папулярнай серыі раманаў і аднайменнага расійскага серыяла "КДБ у смокінгу", Шагал вядомы даволі скандальным характарам. Гэтак, у 2008 годзе падчас дэбатаў у кнесэце наконт прызнання генацыду армян ён прыгразіў апаненту: "Ты яшчэ Чэхава ўспомні, казёл, пысу б табе набіць трэба!".

Аднак, як сцвярджаюць вартыя даверу крыніцы, працэс па адмене віз тармозіцца Мінскам.

**СКАНДАЛЫ**

У кастрычніку 2007-га на прэс-канферэнцыі для расійскіх СМІ ў Мінску Аляксандр Лукашэнка зрабіў заяву, якая ва ўсім свеце была расцэнена як антысеміцкая: "Калі вы былі ў Бабруйску, то бачылі, у якім стане горад? Страшна было зайсці, свінушнік быў. Гэта ў асноўным габрэйскі быў горад, вы ведаеце, як габрэі ставяцца да таго месца, дзе яны жывуць. Паглядзіце ў Ізраілі, я вось быў…". Кіраўнік дзяржавы тады мусіў апраўдвацца, а галоўны рэдактар "Советской Белоруссии" Павел Якубовіч быў камандзіраваны да Зямлі абяцанай залагоджваць скандал.

Скандалам скончылася і работа ў Мінску (2005—2008) папярэдніка Эдзі Шапіры Зэева Бен-Ар'е. Дыпламат перакладаў на іўрыт Быкава ды спрыяў рэалізацыі шэрагу знакавых літаратурных праектаў. Ужо пасля таго, як Бен-Ар'е скончыў працу ў Беларусі ды стаў дарадцам міністра Авігдора Лібермана, выбухнуў скандал. Высветлілася, што, працуючы ў Мінску, ён выдаў тады яшчэ дэпутату кнесэта Ліберману канфідэнцыяльную інфармацыю аб расследаванні Мінюстам Ізраіля яго фінансавых махінацый. Спачатку дыпламата на 8 месяцаў адхілілі ад працы, а ў лістападзе 2010 Бен-Ар'е падпісаў дакументы аб датэрміновым выхадзе на пенсію.

**ЮРЫ ВАЛОЖЫНСКІ, РЫГОР ЛУР'Е**




# ВІЦЕБСКІ ПАКУТНІК

### У ім сканцэнтравана ўсё цяперашняе беларускае – боль, адчай, тупік, агрэсія, супраціў, нянавісць і надзея..

Я пад моцным уражаннем ад першага дня суда над Сяргеем Каваленкам. Пачуцці змешаныя.

**ПАКУТНІК**. Фота аголенага знясіленага Каваленкі выклікала асацыяцыю з класічным творам Тыцыяна «Святы Себастыян».

Перагледзела іншыя ўвасабленні Святога Себастыяна ад розных майстроў і пры знешнім падабенстве адну розніцу адзначыла. Класічныя пакутнікі глядзяць у вышыню, звяртаюцца да Бога. Каваленка ці апускае галаву ці глядзіць на людзей. Што і лагічна – якое неба, які Бог у клетцы ў судовай зале. Але пачуцьцё пакутніцтва ад гэтага не змяншаецца.

**РЭЖЫСЁР.** Каваленка сам вядзе судовы працэс.

Дзякуючы ягоным учынкам за першы дзень суда амаль не адбылося працэсуальных дзеянняў. Фактычна Каваленку з нежаданнем падпарадкоўваюцца і маладыя суддзя і пракурор, і міліцыянты. Інтэлігентны Алесь Бяляцкі на судзе сам перакладаў ходу працэсу. Як у «Жоўным пясочку» Быкава вязні самі штурхалі машыну, якая павязе іх на смерць. Будаўнік Каваленка, які сам за кратамі гаворыць збольшага па-расейску, робіць заўвагі перакладчыцы, школьнай настаўніцы беларускай мовы, і дамагаецца яе адводу і змены перакладчыка. Паспявае, як мне падалося, на пачатку паседжання, даць інструкцыі жонцы, і ягоная сям'я няспынна выклікае «хуткую дапамогу», патрабуючы шпіталізацыі палітвязня.

**БУДУЧАЯ АХВЯРА ПРАПАГАНДЫ.** Рэзкія, экзальтаваныя паводзіны палітвязня, напэўна, могуць скарыстаць афіцыйныя ідэолагі.

Хочаце сцяга? Хочаце беларускай мовы? Глядзіце, вось такія прыйдуць і навядуць свае парадкі.

**НЕ ПАЛІТЫК.** Каваленка – просты будаўнік зь Віцебску. Ён мае ідэю. Ён апантаны. Ён прагне экстрыму. Ён моцны. Ён любіць Беларусь і бел-чырвона-белы сцяг.

Ён вывешвае сцягі. Ён лічыць гэта сваім пакліканнем. Ён не ўмее казаць прыгожых словаў, не ведае, што такое дыпламатыя. Гэта ягоная сіла і ягоная слабасць. Турэмнае пакаранне, якое яму пагражае, абсурднае. І ён змагаецца. Адзін. Як можа. Як умее.

**ПРОСТА ГЕРОЙ**, скажа нехта. **БЛАЗАН**, адкажа другі.

У ім сканцэнтравана ўсё цяперашняе беларускае – боль, адчай, тупік, агрэсія, супраціў, нянавісць і надзея.

Надзея, што ён выйдзе з турмы.

**ГАННА СОУСЬ**

*Заканчэнне.
Пачатак на стар. 3*

# АДТОК ЛЮДЗЕЙ З ФПБ ЯК ПЕРШЫЯ ЛАСТАЎКІ

**— Можаце папулярна растлумачыць, чаму людзі не ўступаюць у незалежныя прафсаюзы? Бо і ў ФПБ ёсць маса незадаволеных грамадзян, але яны чамусьці не бягуць да вас...**

— Незалежныя прафсаюзы — гэта доля вельмі смелых людзей.

## НЕ ЎСТУПАЮЦЬ, ТАМУ ШТО НЕБЯСПЕЧНА

**— То бок пайшоў у незалежны прафсаюз — значыць, аўтаматычна запісаўся ў апазіцыю?**

— Усё больш сур'ёзна, чым вы сабе ўяўляеце. Радавых членаў апазіцыйных партый ніхто не ведае, а сябры незалежнага прафсаюза заўсёды на вачах — яны працуюць на прадпрыемстве, рэгулярна здаюць узносы. Іх ведаюць не толькі па прозвішчах, але і ў твар. І ў іх ёсць рызыка страціць працу пасля заканчэння тэрміну працоўнага кантракта. Амаль на ўсіх прадпрыемствах нашы сябры стаяць перад выбарам: або праца, або прафсаюз.

Сёння на прыкладзе таго ж «Граніта» бачна, што ўлада нават і думкі не дапускае пра тое, што ў краіне можа існаваць прафсаюзны плюралізм і могуць быць яшчэ нейкія прафсаюзы, акрамя тых, якія цалкам падкантрольныя чынавенству. Варта было толькі рабочым «Граніта» масава выйсці з ФПБ, як на іх абрынуліся рэпрэсіі. Сёння мы выкарыстоўваем усе магчымыя метады і сродкі, каб паўплываць на сітуацыю, выказаць салідарнасць.



*Пакуль на вуліцы людзі не выходзяць…*

Дарэчы, зарэгістраваны ў Вільні НІСЭПД у адным са сваіх апошніх даследаванняў адзначыў: 33 працэнты апытаных не ўступаюць у незалежныя прафсаюзы па той прычыне, што гэта небяспечна. На мой погляд, гэта даволі значная лічба.

**— І гэта пры тым, што незалежныя прафсаюзы не займаюцца палітыкай, а толькі правамі працоўных. Так?**

— Так. Кожны трэці з апытаных шчыра сказаў, што баіцца. Ёсць над чым задумацца...

Трэба забяспечваць перамены ў краіне, таму што калі гэтага не будзе, то ніколі не будзе і перспектывы ў незалежнага прафсаюзнага руху.

Некаторыя папракаюць незалежныя прафсаюзы тым, што мы ўхіляемся ад палітычнай барацьбы. Я лічу, што так кажуць тыя, хто хоча бачыць прафсаюзныя арганізацыі прыладай для дасягнення нейкіх мэт. Зразумела, што гэта проста недапушчальна. І нам нецікава займацца такой сумніўнай дзейнасцю. Наша сфера — сацыяльна-эканамічная палітыка.

Але павінен заўважыць, што рэйтынг незалежных прафсаюзаў значна вышэйшы за рэйтынг ФПБ і нават любой палітычнай партыі. І наша задача — падтрымліваць гэты давер.

## ГАРАЧАЙ ВЯСНЫ НЕ БУДЗЕ?

**— Аляксандр Ільіч, а калі асабіста вы ў апошні раз былі на якім-небудзь прадпрыемстве?**

— Я рэгулярна там бываю. У снежні ездзіў на «Беларуськалій». Ёсць шмат прадпрыемстваў, кіраўніцтва якіх цалкам нармальна ўспрымае факт нашага існавання і не чыніць нам ніякіх перашкод у дзейнасці. Быў на "Нафтане", Мазырскім НПЗ і іншых. Але пры гэтым ёсць прадпрыемствы, куды незалежныя прафсаюзы ўвогуле не пускаюць і катэгарычна не жадаюць прызнаваць як арганізацыю.

**— Некаторыя прафсаюзныя дзеячы прагназавалі, што да вясны сітуацыя ў краіне толькі пагоршыцца і завадчане абавязкова выйдуць на вуліцы з маршамі пратэсту. Цяпер быццам бы ўсё адносна стабільна. Як думаеце, ці варта чакаць вулічных хваляванняў?**

— Я не стаў бы казаць, што нас чакае гарачая вясна. Выключаць, вядома, нічога нельга, але асабіста я сёння не бачу ні адной прыкметы таго, што можа нешта адбыцца. Ва ўлады ёсць запас трываласці, яна гатова кантраляваць сітуацыю, у тым ліку і палітычнымі сродкамі, выкарыстоўваючы рэпрэсіўны апарат. І сур'ёзная эканамічная падтрымка з боку Расіі дазволіць не давесці сітуацыю да крытычнай мяжы...

## ГУЛЬНЯ Ў НАПАРСТКІ

**— А што вы думаеце пра парламенцкія выбары? Як на вашу думку, ці трэба апазіцыі ўдзельнічаць у іх?**

— Палітычны працэс у Беларусі даўно скончыўся. З майго пункта гледжання, гэта адбылося ў 2006 годзе. І з тых часоў любы ўдзел апазіцыі ў якіх-небудзь кампаніях — гэта выратаванне і легітымізацыя рэжыму.

**— Гэта значыць, вы за байкот?**

— Не. Я за тое, каб беларуская апазіцыя ў рэшце рэшт перастала ратаваць рэжым і выступаць у якасці яго спарынг-партнёра. Гэта як гульня ў напарсткі…

Як гэта ні горка, але ў нейкі момант апазіцыя стала люстэркам улады. Яна робіць тое, чаго ад яе чакае Лукашэнка. А дзейнічаць трэба непрадказальна, каб немагчыма было пралічыць наступны ход.

Мне здаецца, я гуляю на крыху іншым узроўні і ў іншай лізе. І выбары мне зусім нецікавыя, таму што ў чарговы раз на адны і тыя граблі... Я лічу, што лепш быць самім па сабе, чым, мабыць, выклікаю незадаволенасць і з аднаго, і з другога боку.

**МАРЫНА МІТ**

**ДАРЭЧЫ**

## ПАЧЫНАЕ ДАСТАВАЦЬ УЖО І АФІЦЫЙНЫЯ ПРАФСАЮЗЫ

Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі накіравала ўраду зварот, у якім выказвае занепакоенасць узроўнем зарплаты на прадпрыемствах матэрыяльнай вытворчасці і ў бюджэтнай сферы.

Як паведамляе прэс-служба ФПБ, у звароце да ўрада выказана пазіцыя аб тым, што заработныя платы павінны пастаянна расці. Вынікі праведзенага ФПБ маніторынгу паказваюць, што на сёння на шэрагу прадпрыемстваў узровень аплаты працы выклікае занепакоенасць. Больш чым у 67% працаўнікоў сярэдняя зарплата не перавышае сярэднямесячную заработную плату па краіне (2 млн. 877 тыс. рублёў).

«У кароткія тэрміны трэба прыняць рашэнне адносна стратных прадпрыемстваў, — гаворыцца ў паведамленні. — У выпадку закрыцця вытворчасці або яе перапрафілявання ФПБ настойвае на тым, каб работнікам былі створаны ўмовы для перанавучання па новых запатрабаваных спецыяльнасцях».

Як паведамлялася раней, у апошні тыдзень на некаторых беларускіх прадпрыемствах адзначаліся хваляванні працоўных, незадаволеных нізкім узроўнем заработных плат. У ліку такіх прадпрыемстваў згадваліся барысаўскі БАТЭ, баранавіцкі «Атлант» і пінскае «Палессе».

# ЯК БЕЛАРУСЫ МАСЛЕНІЦУ АДЗНАЧАЮЦЬ

“Бліны і пацалункі падліку не любяць”, — сцвярджае прымаўка. І калі наконт другога абаронцы маралі могуць не пагадзіцца, то першае — бясспрэчна. Прынамсі, цяпер, на Масленіцу.

## І НАПЛЯВАЦЬ НА ТЫЯ КАЛОРЫІ!

Дата Масленіцы рухомая — па царкоўнай традыцыі гэтае свята пачынаецца за 8 тыдняў да Вялікадня. Сёлета яно адзначаецца з 20 па 26 лютага.

Пакуль аматары здаровага ладу жыцця, хапаючыся за сэрца, падлічваюць колькасць шкодных рэчываў і лішніх калорый у кожным асобна ўзятым бліне (для даведкі: класічныя дражджавыя бліны змяшчаюць 220—270 кКал на 100 грамаў, у такой жа колькасці іх “царскага” начыння, чырвонай ікры, — каля 200—250 кКал, у 100 грамах смятаны — ад 115 да 300 кКал у залежнасці ад тлустасці прадукту, у дамашнім варэнні — ад 150 да 300 кКал, а вось у кабачковай ікры — усяго 120 кКал), усе астатнія з задавальненнем “адрываюцца”: атэісты — па звычцы, вернікі — перад Вялікім постам. **“Тут і цяпер” сабрала некалькі адметных масленічных гісторый.**

## “ШТАНЫ ДАВЯЛОСЯ ВЫКІНУЦЬ”

Масленіцу 10-гадовай даўніны вадзіцель мінскай маршруткі **Андрэй Кулеш** дагэтуль узгадвае напалову са смехам, напалову з жахам:

— Вырашылі з жонкай, што даўно ў яе сваякоў у вёсцы не былі, дый цешча клікала — “прыязджайце на бліны, хоць пакармлю па-чалавечы, а то ў вашым Мінску хімію ўсякую ясце”. Ну і паехалі на сваю галаву на тры дні. А там трэба ж зайсці і да цёткі, і да бабкі, і да стрыечнага брата. І ў кожнай хаце частуюць, а калі адмаўляешся, крыўдзяцца не па-дзіцячы… На другі дзень давялося замест заклёпкі нашыць гузік на джынсы, бо інакш не зашпільваліся. На трэці дайшлі мы, нарэшце, да цешчы, а ў яе — смажанае парася, запечаная рыба, пампушкі, ватрушкі і тры віды бліноў з розным начыннем. І слухаць пра тое, што мы за два дні аб’еліся, яна нічога не жадае. Я адчуваю, што гузік падазрона патрэсквае, прашу жонку шэптам: “Мне больш не кладзі”. Цешча пачула і давай праз увесь стол крычаць: “Андрэйка, ты яшчэ пірага не пакаштаваў! Кладзі сабе ды кажы тост!” Я толькі падняўся, як гузік — трэсь! — на дзве часткі, якія адляцелі ў розныя бакі. Пад агульны рогат сваякоў пакланіўся (ажно ззаду на цікавым месцы швы разышліся) і кажу: “Даруйце, мама, аднак калі яшчэ хоць кавалачак з’ем, дадому без штаноў паеду”. На бліны потым тры месяцы глядзець не мог. А штаны давялося выкінуць, бо і гузік, і швы паляцелі “з мясам”.

## “БЛІНОЎ НЯМА, “КАЛАБКІ” БУДЗЕШ?”

— Адразу пасля школы мы з маім хлопцам, нягледзячы на абурэнне бацькоў, вырашылі пажыць разам, — узгадвае магіляўчанка **Марына Бычкоўская**. — Ён працаваў, а я, не паступіўшы ў ВНУ, палову дня падпрацоўвала ў краме, палову сядзела дома і штудзіравала падручнікі. Неяк пачула па тэлеку, што Масленіца прыйшла, усе пякуць бліны, і вырашыла таксама парадаваць сябе і каханага.

*Заканчэнне на стар. 8*

# СВІНЕЙ У НАВАГРУДСКІМ РАЁНЕ ЗНІШЧЫЛІ Ў РАМКАХ ВУЧЭННЯЎ

Такім чынам адпаведныя службы вучыліся змагацца з афрыканскай чумой свіней, піша “Наша ніва”.



*І свінні сталі мішэнямі*

Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчу ў аўторак размясціла на сваім сайце афіцыйную інфармацыю пра дзеянні санітарных службаў у Навагрудскім раёне.

Раней з’явілася інфармацыя, што ў вёсцы Нязнанава Навагрудскага раёна санітарныя службы знішчылі свіней з прыватных падворкаў. Нібыта, у вёсцы была выяўленая афрыканская чума свіней.

Вяскоўцы паведамілі журналістам, што ім пачалі выплочваць кампенсацыю з разліку 15 тысяч рублёў за кілаграм.

Свіней спалілі — акурат так змагаюцца з чумой.

З паведамлення міністэрства вынікае, што «на тэрыторыі Навагрудскага і Карэліцкага раёнаў Гродзенскай вобласці 16—18 лютага 2012 года былі праведзены рэгіянальныя вучэнні ў рэжыме максімальна набліжанай да рэальных умоў абстаноўкі, з прымяненнем эфекту нечаканасці і адпрацоўкай усіх канкрэтных дзеянняў і прафілактычных мерапрыемстваў».

Варта адзначыць, што афіцыйныя тлумачэнні міністэрства з’явіліся праз пяць дзён пасля вучэнняў на Навагрудчыне.

Да гэтага часу ні прадстаўнікі мясцовых уладаў, ні супрацоўнікі ветэрынарных установаў, ні чыноўнікі міністэрства не каментавалі сітуацыю. Так, карэспандэнту «НН» ва ўпраўленні сельскай гаспадаркі райвыканкама супрацоўніца заявіла: «Я не спецыяліст. Званіце начальніку альбо ў ветлячэбніцу». Супрацоўнік раённай ветстанцыі паведаміў , што «не мае такой інфармацыі, у нас у раёне ўсё добра».

Маўчанне ўладаў прывяло да панічных настрояў сярод вяскоўцаў.

Як паведамілі «НН» жыхары абодвух раёнаў пачалі рэзаць свіней, не чакаючы гасцей з ветслужбы. Карціна была фантасмагарычная.

Едзеш пад Навагрудкам – у кожнай вёсцы смаляць кабаноў.

Людзі ў разгубленасці — калі гэта былі вучэнні, то навошта было забіваць і спальваць свіней.

Жыхары Нязнанава распаўсюджваюць чутку, што з восені ў аднаго з мясцовых фермераў сапраўды адбылася паморка на свінні, але гаспадар нікуды не звяртаўся, а свіней закапаў.

І што, маўляў, калі аналізы пацвердзяць факт афрыканскай чумы, то, паводле нормаў, свіней прыйдзецца спаліць у радыусе 30 кіламетраў вакол.

**СЯМЁН ПЕЧАНКО**

*Заканчэнне.
Пачатак на стар. 7*

# ЯК БЕЛАРУСЫ МАСЛЕНІЦУ АДЗНАЧАЮЦЬ

З раніцы наабяцала яму ўсякай смакаты на вячэру, а пра тое, што я, у прынцыпе, ніколі з цестам справы не мела, неяк… забылася. У каляжанкі спыталася рэцэпт, тая патлумачыла, што ўсё проста: малако, яйкі, мука, соль, цукар, ну і дрожджы. Цяпер нават не ўзгадаю, чаго я недаклала, а з чым перастаралася, але ў выніку ніводнага бліна з патэльні я так і не зняла — атрымліваліся неапетытныя камякі. Уся ў слязах патэлефанавала бабулі (яна адна з усёй сям'і паставілася да маіх "закідонаў" з разуменнем). Бабуля падрабязна распытала ў мяне, як выглядае цеста, колькі стаяла, што я туды намяшала… Памятаю, я ў адчаі кажу: "Прасцей выкінуць!", а бабуля мне: "Выкінуць заўсёды паспееш, лепей дабаў тое і тое, і выпякай не на патэльні, а ў духоўцы". Карацей, калі ўвечары каханы прыйшоў дадому, няўдалых "пагарэльцаў" я ўжо выкінула, а на ўвесь пакой ішоў пах ад булачак. Ён здзівіўся — маўляў, дзе бліны? Бліноў, кажу, няма. Калабкі будзеш? А назаўтра з ранку да нас прыехала бабуля з блінамі (ноччу пякла!) і сшыткам "правільных" рэцэптаў. Мне было так сорамна за сябе, што плюнула на ВНУ і пайшла вучыцца на кухара, аб чым цяпер зусім не шкадую. І хлопец, цяпер ужо муж, калі меркаваць па тым, што перадусім ён заўсёды цікавіцца, што ў нас будзе смачненькае, таксама цалкам адабрае той мой выбар.

## "МЫ СВАЕ БЛІНЫ АДЫГРАЛІ Ў ШАШКІ"

Выкладчык **Анатоль Драгічынскі** дагэтуль добра памятае, як з-за масленічных бліноў аднойчы ледзь ці не здарыўся… "міжнародны" канфлікт.

— Год быў, дай Бог памяці, 1970-ты. Я адпачываў у санаторыі пад Брэстам, лячыў застарэлы бранхіт. Паколькі напрыканцы лютага і ў будынках, і ў навакollі было даволі сумна, з задавальненнем пагадзіўся на трохдзённую экскурсію цягніком Брэст—Ярэмчы, праз Ужгарад і Львоў. Прыехалі мы ў сталіцу Закарпацкай Гуцульшчыны — Рахаў, дзе нашы 5 вагонаў з турыстамі перачаплялі да іншага састава. Паколькі экскурсійны маршрут быў пастаянным, а стаянка — вельмі доўгай, мясцовыя ўлады зладзілі чэмпіянат па шашках паміж зборнай цягніка і зборнай горада. Справа адбывалася якраз на Масленіцу, і наш кухар напёк мноства бліноў, але іх —увесь стос, штук 300 — скралі з вагона-рэстарана! Беларусы добра-такі раззлаваліся, і, калі мы сышліся ў партыі за першае месца з мясцовым гуцулам, я жорстка паставіў умову: калі выйграе зборная цягніка, то бліны вяртаюць з выбачэннямі. І што б вы думалі — выйграў! Увечары бліны елі і мы, і гуцулы, праўда, у цягніку. А тыя гэта былі бліны або спечаныя ўзамен, навуцы, як кажуць, невядома. Без бойкі, праўда, таксама не абышлося…




## УСЁ ТРЫМАЕЦЦА НА БАБКАХ

Вядомы паэт і бард **Зміцер Бартосік** прызнаецца, што Масленіцу "па-сямейнаму" не адзначае, бо зазвычай у гэты час якраз ездзіць па вёсках, дзе збірае фальклор, запісвае спевы мясцовых выканаўцаў.

— *Я што заўважыў: чым далей вёска ад вялікага горада, тым больш аўтэнтычнае і шчырае там свята,* — дзеліцца назіраннямі Зміцер. — *Усё гэта трымаецца на старых бабках, якія яшчэ памятаюць абрады, прытрымліваюцца пэўных традыцый, збіраюцца ў нейкія калектывы ды спяваюць разам.*

## БЛІН НЕ РАСПУСТА

Паводле царкоўнай традыцыі, Масленіца — гэта апошні з трох тыдняў падрыхтоўкі да Вялікага посту, так званая "сырная", або "мясапусная сядміца", калі вернікам ужо нельга ўжываць мяса, але дазваляецца да канца тыдня ўжываць рыбу, яйкі, малочныя прадукты і сметанковае масла. Завяршаецца тыдзень Даравальнай нядзеляй, у якую па звычаі праваслаўныя хрысціяне просяць прабачэння адно ў аднаго і наведваюць могілкі родных з гэтай жа мэтай. У адрозненне ад бязмежных народных гулянняў, падкрэсліваюць сучасныя святары, святкаванне масленіцы для вернікаў "не павінна ператварацца ва злоўжыванне і служыць нагодай для граху, а толькі падрыхтаваць чалавека да часу Вялікага посту, роздуму аб сваёй душы і самаўдасканаленні".

Няцяжка здагадацца, што "паганскія" традыцыі кшталту скокаў цераз вогнішча, абраду "цягання калоды" або спальвання чучала Зімы праваслаўнай царквой, у тым ліку беларускай, таксама не вітаюцца. Але ў рэшце рэшт кожны сам выбірае, як яму весяліцца — з чаркай ды шкваркай, з блінамі ды гарбатай або з постам ды малітвамі.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

**8 10 370 679 294 59**

**Каб аформіць падпіску "Тут і цяпер"**

трэба адправіць смс са сваім адрасам на гэты нумар

**падпіска на газету "Тут і цяпер" - БЯСПЛАТНАЯ**

**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 23.02.12
Тыраж 299 экзэмпляраў